ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БЛОК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

## НА МІЖНАРОДНЫЯ ТЭМЫ

ВЕРАСЕНЬ

№ 22 (37)

ПАРТЫЙНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1933



Рэдактар *З. Давідовіч*
Літпраўка *Ф. Палей*
Карэктар *С. Дамаронак*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Здана ў набор 21/IX—33 г.
Падпісана да друку 8/X—33 г.
Набрана на лін. № 6
Адк. кар. друк. *Варатынская*

ЗМЕСТ



Заказ № 2165. 10.000 экз. (1 арк.) Ун. Галоўлітбелу № 703

## Што такое „пакт чатырох“ і каму ён патрэбен

7 чэрвеня ў Рыме (Італія) быў начорна падпісан (парафіраван)[1]) дагавор паміж Англіяй, Францыяй, Італіяй і Германіяй, так званы «пакт чатырох дзяржаў».

Для таго, каб уясніць сабе, якое значэнне мае «пакт чатырох», неабходна спыніцца на гісторыі яго ўзнікнення і на тых змяненнях, якія пацярпеў першапачатковы праект дагавора. Трэба сказаць, што падпісаны начорна дагавор з'яўляецца шостым праектам,—пяць папярэдніх былі забракаваны.

Перадзел Еўропы пасля сусветнай імперыялістычнай вайны быў надзвычай невыгадным



---

1) Заключэнне кожнага міжнароднага дагавора (пакта) праходзіць праз тры этапы: 1) **парафіраванне**, г. зн. чарнавое падпісанне, калі асобы, упаўнаважаныя заключыць дагавор, ставяць на тэксце толькі першыя літары сваіх прозвішчаў; 2) нармальнае падпісанне поўнымі прозвішчамі і 3) ратыфікацыя, г. зн. зацвярджэнне дагавора парламентамі краін, прымаючых удзел у дагаворах. У СССР дагаворы зацвярджае ЦВК СССР, у капіталістычных краінах, не маючых парламента,—главы дзяржаў.

для тых імперыялістаў, якія пацярпелі паражэнне. У Германіі былі адабраны некаторыя яе землі, якія адышлі да Францыі і Польшчы, адабраны калоніі. Германію раззброілі, забаранілі мець вялікую армію, знішчожылі яе флот, на яе была накладзена вялікая ваенная даніна. Аўстра-Венгерская імперыя была знішчожана. Замест яе асталася малюсенькая Аўстрыя і пазбаўленая многіх сваіх ранейшых уладанняў Венгрыя. Адабраныя ў Аўстра-Венгрыі землі адышлі да Румыніі, Юга-Славіі, узнікшай замест Сербіі, і наваўтворанай Чэха-Славакіі.

Перадзел Еўропы быў замацован Версальскім дагаворам, заключаным у 1919 г. Каб забяспечыць захаванне Версальскага дагавора, французскія імперыялісты заключылі ваенныя саюзы з Польшчай, Чэха-Славакіяй, Юга-Славіяй і Румыніяй. Са свайго боку Чэха-Славакія, Юга-Славія і Румынія аб'ядналіся таксама ў саюз, называемы Малой Антантай. Польшча заключыла ваенныя саюзы з дзяржавамі Малой Антанты.

Само сабой зразумела, што буржуазія пераможаных краін згадзілася на невыгадны для яе перадзел Еўропы толькі таму, што яна была бяссільна змагацца супроць яго. Але нездаволенне і жаданне вярнуць страчанае яна захавала. Германскі імперыялізм увесь час упорна дабіваецца перагляда Версальскага дагавора і ў першую чаргу права ўзброй-

ваццa. Пакольki Францыя і яе саюзнікі гэтаму супраціўляюцца, адносіны паміж Германіяй, з аднаго боку, і Францыяй і яе саюзнікамі—з другога, увесь час пагаршаюцца.

Эканамічны крызіс яшчэ больш абвастрыў супярэчнасці. Да крызіса германская буржуазія атрымлівала за граніцай пазыкі для аднаўлення сваёй прамысловасці. Самым лютым чынам эксплаатуючы рабочых і скарыстоўваючы заграніччныя пазыкі, германская буржуазія ўхітралася і ўносіць ваенную даніну, і расшыраць свой гандаль на замежных рынках.

Крызіс спыніў прыток пазык у Германію. Уведзеныя капіталістычнымі краінамі высокія падаткі на ўвазімыя тавары закрылі для Германіі замежныя рынкі, вытворства ў Германіі моцна скарацілася, армія германскіх беспрацоўных узрасла да 7 млн. Прыбыткі германскай буржуазіі рэзка зменшыліся.

З другога боку, узмацнялася рэволюцыйная барацьба нямецкіх рабочых, на плечы якіх буржуазія стараецца перакласці ўвесь цяжар крызіса, зніжаючы зарплату, узмацняючы і без таго страшэнную эксплаатацыю і выкідваючы рабочых з вытворства.

На якіх шляхах стала шукаць германская буржуазія выхада? На шляхах падрыхтоўкі да новай вайны за новы перадзел Еўропы. Да ўлады германскай буржуазіяй быў заклі-

кан фашызм — нацыянал-соцыялісты (гітлераўцы).

Што азначае прыход гітлераўцаў да ўлады?

Самы люты паход супроць рабочага класа і яго авангарда—компартыі, узмоцненую падрыхтоўку да вайны.

Буржуазія краін-пераможніц, ухваляючы паход германскай буржуазіі на рабочы клас, дала рэзкі адпор зноў пастаўленым германскім фашызмам патрабаванням аб змяненні германскіх граніц (расшырэнні германскіх уладанняў) і прадастаўленні Германіі права ўзбройвацца. Франка-германскія і польска-германскія адносіны пагоршыліся да таго, што ў паветры запахла порахам.

Германскія фашысты разлічваюць на падтрымку некаторых краін-пераможніц, якія не зусім здаволены версальскім перадзелам Еўропы.

Італія лічыць сябе пакрыўджанай, бо, па яе думцы, яна атрымала мала ваеннай здабычы; Англія, хоць і не лічыць сябе пакрыўджанай, усё-ж не жадае празмернага ўзмацнення Францыі.

Італія ў сілу свайго нездаволення падтрымлівала некаторыя германскія патрабаванні аб пераглядзе граніц, дабіваючыся аслаблення Францыі. Італія пярэчыць, аднак, супроць злучэння Германіі з Аўстрыяй, таму што гэта нанесла-б ушчэрб яе інтарэсам, паколькі яна

сама захвацiла некаторыя ранейшыя аўстрыйскiя землi i не хоча ўзмацнення германскага ўплыва ў гэтай частцы Еўропы.

У рэзультаце абвастрэння ўсiх гэтых iмперыялiстычных супярэчнасцяй становiшча ў капiталiстычнай Еўропе настолькi абвастрылася, што Жэнеўская «раззбройная» канферэнцыя апынулася пад пагрозай зрыва. А зрыў канферэнцыi азначаў-бы, што Германiя пачне адкрыта ўзбройвацца. Пагроза ваеннай сутычкi памiж iмперыялiстамi ў Еўропе становiцца ўсё сур'ёзней i сур'ёзней.

Брытанскiя iмперыялiсты вельмi баяцца iменна такой ваеннай сутычкi. Вайна памiж iмперыялiстамi ў Еўропе немiнуча захвацiла-б Англiю i аслабiла-б яе ў яе барацьбе супроць Амерыкi. Апрача таго, брытанскiя iмперыялiсты разумеюць, што вайна памiж iмперыялiстамi ў Еўропе магла-б прывесцi да рэволюцыйнага выбуха, чаго яны баяцца больш за ўсё.

Брытанскiя iмперыялiсты кiнулiся ратаваць становiшча. Як-жа хацелi яны яго выратаваць? Каб утрымаць ад краха Жэнеўскую канферэнцыю, яны высунулi на канферэнцыi новы план «раззбраення», iмкнучыся, зразумела, не да скарачэння ўзбраення, а да таго, каб выйграць час.

У той-жа час брытанскiя iмперыялiсты разам з Iталiяй распрацавалi першы праект дагавора «4-х дзяржаў». I тут-та зноў сказа-

лася сутнасць антысовецкай палітыкі брытанскіх імперыялістаў. Распрацаваны план прадугледжваў некаторае расшырэнне германскіх граніц за лік Польшчы, Чэха-Славакіі і іншых малых краін.

Але галоўнае заключалася ў тым, што план прадугледжваў нападзенне на Совецкі саюз. З прычыны таго, што ў Польшчы меркавалася адабраць частку яе зямель, то ёй прапанавалася напасці на Совецкую Украіну і пакрыць свае страты.

Такім чынам, брытанскі імперыялізм дабіваўся таго, каб папярэдзіць бойку паміж імперыялістамі ў Еўропе шляхам арганізацыі адзінага фронта супроць СССР. У гэтым заключаецца галоўны сэнс пакта.

Аднак, малыя дзяржавы не хочуць рызыкаваць дзеля інтарэсаў брытанскіх імперыялістаў. Апрача таго, яны не хочуць пазбавіцца сваіх цяперашніх уладанняў. Яны рэзка запратэставалі. Іх пратэсты падтрымлівала Францыя, надзвычай добра разумеючая, што расшырэнне германскіх уладанняў і дазвол Германіі ўзбройвацца прадстаўляе небяспеку для Францыі.

І з першага праекта нічога не выйшла. Францыя высунула свой праект (план дагавора). У гэтым праекце ўжо нічога не гаварылася аб пераглядзе германскіх граніц і аб праве Германіі ўзбройвацца. Тады запратэставала

Германія. Так адзін праект змяняўся другім. Здавалася, што справа аб дагаворы 4-х дзяржаў ужо пахавана. Але брытанскія імперыялісты ад сваіх планаў так лёгка не адмаўляюцца, і яны высунулі новы праект. Для таго, каб дабіцца заключэння дагавора 4-х, хоць у змененым выглядзе, Англія, з аднаго боку, прыгразіла Германіі, што яна цалкам будзе падтрымліваць Францыю, а Францыі прыгразіла, што ў выпадку вайны з Германіяй не акажа Францыі дапамогі. У той-жа час, каб дабіцца згоды з Францыяй, англійскія імперыялісты згадзіліся на тыя папраўкі да дагавора, якія Францыя патрабавала.

Што-ж атрымалася ў рэзультаце? У рэзультаце атрымалася тое, што новы дагавор не ўпамінае ні аб германскім праве на ўзбраенне, ні аб пераглядзе германскіх граніц. Ён толькі гаворыць аб тым, што чатыры, заключыўшыя дагавор, дзяржавы павінны старацца ўмацоўваць мір. Ні адно з разнагалоссяў, ні адно з супярэчнасцяй паміж імперыялістамі дагаворам не ўстараняецца.

Пакт 4-х дзяржаў, які з'яўляецца рэзультатам надзвычай рэзкага абвастрэння барацьбы паміж імперыялістамі ў Еўропе, прадстаўляе сабой з пункта гледжання ўстаранення гэтых супярэчнасцяй такі-ж пусты кавалак паперы, як і тыя груды папяровых рэзалюцый, якія былі прыняты на Жэнеўскай «раззбройнай» канферэнцыі.

Каму-ж, узнікае пытанне, патрэбен гэты дагавор, які не здавальняе ні германскіх, ні французскіх, ні італьянскіх патрабаванняў? Ён патрэбен брытанскаму імперыялізму і вось чаму. Пры дапамозе гэтага дагавора брытанскія імперыялісты, якія як-бы бяруць на сябе ролю судзі паміж Францыяй і Германіяй і паміж Францыяй і Італіяй, спадзяюцца, што, скарыстоўваючы разнагалоссі паміж іншымі ўдзельнікамі дагавора, ім удасца згуртаваць антысовецкі фронт і дабіцца таго, каб задаволіць вымаганні германскіх фашыстаў за лік Совецкага саюза. Пры гэтым яны разлічваюць на варожасць германскіх фашыстаў да Совецкага саюза. Як вядома, нядаўна пасланец фашыстаў—Розенберг—быў у Лондоне і вёў там перагаворы з брытанскімі імперыялістамі аб нападзенні на СССР.

Але не толькі супроць Совецкага саюза куюць зброю брытанскія імперыялісты. З прычыны таго, што ўсе ўдзельнікі дагавора з'яўляюцца даўжнікамі Амерыкі, то Англія разлічвае згуртаваць і адзіны фронт супроць Амерыкі для сваёй барацьбы з апошняй на міжнароднай эканамічнай канферэнцыі.

Новы дагавор не аслабляе супярэчнасцяй паміж імперыялістамі. Але гэты дагавор дае магчымасць брытанскім імперыялістам аказваць уплыў на галоўныя еўрапейскія дзяржавы і дабівацца стварэння антысовецкага

блока. Намаганні, якія праявілі брытанскія імперыялісты, каб дабіцца заключэння дагавора, паказваюць, што цвёрдалобыя стараюцца ажыццявіць свае антысавецкія планы ўсякімі спосабамі. Таму працоўныя СССР павінны быць напагатове.

## Для чаго склікалася міжнародная эканамічная канферэнцыя

Пасля года падрыхтоўкі, 12 чэрвеня гэтага года, у Лондоне адкрылася міжнародная эканамічная канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі 66 дзяржаў, у тым ліку і СССР.

Што пабудзіла імперыялістаў склікаць канферэнцыю?

За гады крызіса вытворства ў капіталістычных краінах скарацілася больш, чым напалавіну; беспрацоўе ахваціла 60 млн. чалавек; сусветны гандаль скараціўся на дзве трэці (у 1929 г. абарот сусветнага гандля складаў прыблізна 130 млрд. залатых рублёў, а ў 1932 г.—толькі 45 млрд.); 50 дзяржаў вымушаны былі адмовіцца ад залатога стандарта, г. зн. ад размена папяровых грошай на золата.

Як адбілася паглыбленне і развіццё крызіса на адносінах паміж імперыялістамі? Яно прывяло да самай зацятай барацьбы за рынкі. Унутраныя рынкі ў капіталістычных краінах надзвычай звузіліся: прадаваць тавары ўну-

тры краіны стала ўсё трудней, таму што ў шырокіх працоўных мас няма сродкаў купляць нават самае неабходнае. Хто галоўны спажывец? Рабочы, селянін. Але рабочаму зніжаюць зарплату, беспрацоўе расце, селянін збяднеў. Купляць няма каму. Тавары гніюць на складах. Капіталісты прабуюць збыць тавары за граніцу, але і сусветны рынак звузіўся на дзве трэці.

Што-ж робяць капіталісты? У першую чаргу яны ўводзяць высокія падаткі на ўсе тавары, якія ўвозяцца ў іх краіну (таможанныя тарыфы). Падаткі гэтыя настолькі высокія, што тавары ўвозіць становіцца невыгадна, таму што яны аказваюцца дарагімі ў параўнанні з цэнамі, якія існуюць у краіне, куды іх увозяць.

У рэзультаце—увесь свет ахвачан таможаннай вайной.

Але гэта, так сказаць, абаронная вайна. Мала-ж не дапускаць чужыя тавары ў сваю краіну. Трэба як-небудзь праштурхнуць свае тавары на чужыя рынкі. Вайна ад абароннай пераходзіць у наступальную. Кожная імперыялістычная краіна стараецца выцесніць з сусветных рынкаў чужыя тавары і праштурхнуць свае. Для гэтага яны звяртаюцца да розных сродкаў—ад дэмпінга да адкрытай вайны, як гэта робіць Японія, захваціўшая сілай зброі Манчжурыю і Паўночны Кітай.

Але што такое дэмпінг? Гэта масавы вываз тавара па надзвычай таннай цане. Кожны імперыяліст стараецца прадаваць свае тавары па больш таннай цане і выцясняць з рынка чужыя. Так, Англіі ўдалося, прадаючы па больш таннай цане свае тавары, выцесніць Амерыку з рынкаў у Аргентыне і радзе іншых краін Паўднёвай Амерыкі. Японія наваднiла сваімі таннымі таварамі Індыю, Заходнюю Афрыку, Егіпет і іншыя краіны.

У рэзультаце—эканамічная вайна ўсіх супроць усіх.

Але каб больш танна прадаваць тавары, трэба, каб яны танна каштавалі, бо капіталісты ад сваіх прыбыткаў не хочуць адмаўляцца. Што для гэтага робіцца? Па-першае, зніжаецца зарплата рабочым, узмацняецца эксплаатацыя, з рабочых выціскаюць усе сокі, скарачаецца лік рабочых (г. зн. павялічваецца беспрацоўе) і, нарэшце, скарыстоўваецца абесцаненне грошай.

Возмем Англію. Адмовіўшыся ад залатога размена грошай, яна ўвесь час наўмысна робіць так, каб яе грошы (фунт стэрлінгаў) каштавалі менш за амерыканскіх (долара). Для чаго гэта робіцца? А для таго, каб англійскія тавары каштавалі больш танна. Яны тады больш ходкія. Апрача таго, плацячы рабочым таннымі грашыма, капіталісты яшчэ зніжаюць зарплату. Англічане зменшылі вартасць сваіх грошай на чвертку;

японцы—на дзве трэці; амерыканцы, якія таксама недаўна адмовіліся ад залатога размена,—на адну пятую.

Так атрымліваецца валютная вайна, вайна за абесцаненне залатых грошай. Але да чаго гэтая вайна прыводзіць? Ад гэтай вайны ні ўнутраныя, ні замежныя рынкі не павялічваюцца, а, наадварот, звужаюцца. Бо калі зніжаецца зарплата і павышаюцца цэны на тавары з прычыны абесцанення грошай, то купляць насельніцтву яшчэ трудней. Валютныя войны вядуцца за тое, каб урваць сабе пабольш з таго, што асталося ад сусветнага гандля. А з той прычыны, што сусветны гандаль усё скарачаецца, то ясна, што ад гэтых войн прамы шлях да сапраўднай вайны за захват рынкаў, калоній, за «права» грабяжа.

Што паказвае валютная вайна? Тое, што капіталісты не маюць і не могуць мець сродкаў супроць крызіса. Гэта ўсё больш і больш пачынаюць разумець рабочыя, якія бачаць, што ў СССР, дзе няма капіталізма,—няма ні крызіса, ні беспрацоўя. Сярод рабочых капіталістычных краін растуць рэвалюцыйныя настроі, тым больш, што ўсе гэтыя таможанныя эканамічныя і валютныя войны б'юць у першую чаргу па рабочаму, селяніну, церпячых усё больш і больш голад і галечу.

І вось імперыялісты і іх падручныя—фашысты і соцыял-фашысты прабуюць зноў ашукаць шырокія працоўныя масы такса-

ма-ж, як у пытанні аб скарачэнні ўзбраення. Вось, моў, збярэмся, дагаворымся і раззброімся. Жэнеўская «раззбройная» канферэнцыя паказала, што імперыялісты займаюцца толькі балбатнёй аб раззбраенні.

З эканамічнай канферэнцыяй атрымалася тое-ж самае.

Яшчэ канферэнцыя па-сапраўднаму не распачала работу, а ўжо імперыялісты перадраліся па ўсіх галоўных пытаннях. Галоўная бойка ідзе паміж асноўнымі супернікамі ў імперыялістычным свеце: паміж Англіяй і Амерыкай. Пачалі з таго, што перадраліся з-за ваенных даўгоў. Амерыка патрабавала ўплаты чарговага ўзноса, Англія ўнесла ўсяго $^1/_{10}$. Пытанне павісла ў паветры.

Падаткі на ўвозімыя тавары? Англія зніжаць падаткі адмовілася. Амерыка правяла закон, які дае прэзідэнту права яшчэ больш павысіць існуючыя падаткі на ўвозімыя тавары.

Пытанне аб грошах? Францыя патрабуе, каб усе вярнуліся да залатога размена. Англія хоча ўстанавіць такі размен англійскіх грошай на амерыканскія, каб англійскія былі больш танныя. Амерыка зусім адмовілася размаўляць па гэтаму пытанню і прадаўжае далей абясцэньваць свае грошы. Карацей— усе паасобку: хто ў лес, хто па дровы.

Можна задаць пытанне: няўжо не ведалі імперыялісты, што будзе такі разброд? Зра-

зумела, ведалі. Але прызнацца ў гэтым перад усім светам нельга. Гэта значыць прызнацца, што капіталізм збанкрутаваў. А апрача таго імперыялісты ішлі на канферэнцыю не для таго, каб умацаваць мір і супакой, а для таго, каб лепш падрыхтавацца да будучых эканамічных і сапраўдных крывавых войн. Кожны з іх ішоў для таго, каб пашукаць сабе саюзнікаў, прашчупаць слабыя месцы праціўнікаў. Апрача таго, у многіх імперыялістаў была тайная мара: ці не ўдасца згаварыцца наконт антысовецкага фронта. Выступленне германскай дэлегацыі ясна паказала, што такія планы ёсць.

Германская дэлегацыя выступіла з мемарандумамі (памятная запіска), у якой прапанавала падзяліць СССР... на «сферы ўплыва». Што разумеюць імперыялісты пад «сферамі ўплыва»—усім вядома. Гэта падзел краіны пры дапамозе інтэрвенцыі, г. зн. ваеннага ўмяшання (як гэта мела месца ў Кітаі, напрыклад), з тым, што кожны з імперыялістычных удзельнікаў атрымлівае раён для бескантрольнага грабяжа. Інакш кажучы, германскія фашысты запрапанавалі арганізаваць ваенныя напады на СССР і падзяліць совецкія раёны.

Удзельнікі канферэнцыі паспяшылі адгарадзіцца ад гэтых планаў, але не таму, што яны супроць, а таму, што яны ведаюць, як небяспечна гучна гаварыць аб гэтым, бо ра-

бочыя капіталістычных краін таксама напагатове, а таксама таму, што яны ведаюць, якая сіла—СССР.

Совецкі прадстаўнік—т. **Літвінаў**—выступіў на канферэнцыі і ў нямногіх простых словах паказаў, якая розніца паміж гніючым капіталістычным светам і растучай рэспублікай Советаў—краінай будуючагася соцыялізма.

У капіталістычным свеце—60 млн. беспрацоўных, у нас—няма беспрацоўных; у іх—вытворства падае, у нас—безупынна расце; у іх—рынкі звужаны, тавары прадаваць няма куды, мы—можам закупіць машыны, абсталяванне і тавары на 1 млрд. даляраў, калі будуць прадстаўлены адпавядаючыя ўмовы.

Совецкі саюз мог-бы,—заявіў т. Літвінаў,—паглынуць у бліжэйшы час прыблізна на 100 млн. даляраў каляровых металаў; на 200 млн. чорных металаў; на 100 млн. тэкстыльнай, скураной сыравіны і каучука; прыкладна на 400 млн. абсталявання, уключаючы чыгуначнае абсталяванне на 100 млн.; прыкладна на 35 млн. сельгаставараў, уключаючы і племянную жывёлу; на 50 млн. даляраў такіх спажывецкіх тавараў, як чай, какава, кава, сялёдка; на 50 млн. новых суднаў, пераважна для прамысловых мэт, як напрыклад: рыбалоўныя, зверабойныя, землечарпалкі і т. д. У выпадку рэалізацыі гэтых заказаў яны складуць для такіх металаў, як алюміній,

нікель, медзь і свінец ад 25 да 60 проц., а для некаторых з упамянутых спажывецкіх тавараў—да 100 проц. існуючых сусветных запасаў, для машыннага абсталявання—прыкладна трэцюю частку гадавога сусветнага экспарта, а для суднаў—100 проц. усяго сусветнага вытворства мінулага года.

Совецкі саюз паказаў, што ён можа развівацца і расці без дапамогі капіталістычнага света. Але Совецкі саюз супроць эканамічных войн, Совецкі саюз за мір, супроць новай бойні.

Тав. Літвінаў выклаў совецкія прапановы, тым самым крута і выразна паставіў перад імперыялістамі пытанне: вы за або супроць эканамічнай вайны, вы за мір або супроць?

Совецкія прапановы ўжо прарвалі павуцінне ілжывых увёртак, сатканае для ашуканства працоўных. Рабочым, працоўным усяго света будзе ясна, хто за мір, хто супроць і чаго сапраўды дабіваюцца імперыялісты.

У гэтым сэнс совецкіх прапаноў. У гэтым сэнс удзела СССР у міжнароднай эканамічнай канферэнцыі.

І мірная, але рашучая палітыка СССР дала свае рэзультаты. Англійскія імперыялісты, якія забаранілі было совецкі ўвоз у Англію ў надзеі, што ўдасца арганізаваць агульную эканамічную вайну супроць СССР, праваліліся і вымушаны былі зняць забарону з со-

вецкіх тавараў. З другога боку—ПАЗШ прадаставілі даволі значныя крэдыты для пашырэння совецка-амерыканскага гандля. Амерыканскім экспартэрам прадастаўлена пазычка з мэтай фінансаваць продаж Совецкаму саюзу ў крэдыт на адзін год 60—80 тысяч кіп бавоўны.

## Якое значэнне мае Манчжурыя для японскіх імперыялістаў

На працягу ўжо амаль двух год, пачынаючы з верасня 1931 г., Японія, уварваўшыся ў Кітай, вядзе там крывапралітную руйнавальную вайну і адбірае ў Кітая адну частку яго зямель за другой.

Вайна пачалася з захвата японскімі войскамі ў верасні 1931 г. Манчжурыі—багацейшай і буйнейшай вобласці Кітая,—гранічачай, з аднаго боку, з СССР, і з другога—з Корэяй (японскай калоніяй).

Як і заўсёды, пры захваце чужой зямлі, японцы, перакінуўшы статысячную армію, самалёты, танкі і т. д. у Кітай, заявілі, што быццам яны былі вымушаны гэта зрабіць «для абароны інтарэсаў сваіх грамадзян у Манчжурыі і што кітайцы нібыта на іх напалі». Гэта—звычайнае ашуканства, якое ўжываюць усе імперыялісты пры захваце чужых уладанняў; яны заўсёды заяўляюць, што робяць гэта ў парадку самаабароны. Тое-ж

гаварылі і японцы, калі захвацілі Карэю, таксама яны аб'яснялі ў 1918 г. сваё ўварванне на тэрыторыю Совецкага саюза, Совецкі Сібір і на Совецкі Далёкі Ўсход.

Цяпер зусім дакладна вядома, што план захвата Манчжурыі быў распрацован ужо некалькі год назад, і што ваенны напад быў падрыхтаван ва ўсіх дэталях генеральным штабам Японіі за некалькі месяцаў да выступлення.

Дзейнічаючы абдумана і з разлікам, японцы ў самы кароткі час—у два-тры месяцы выцеснілі кітайскія войскі за межы Манчжурыі і занялі яе цалкам. Яны абвясцілі Манчжурыю «незалежнай дзяржавай», назваўшы яе «Манчжоу-Го» і паставілі на чале былога кітайскага імператара Пу-І, прадстаўніка манархічнай дынастыі, выгнанай шмат гадоў назад з Кітая паўстаўшым народам. Манчжоу-Го фактычна кіруецца Японіяй, армія якой займае Манжурыю. Японцы распараджаюцца ўсёй замежнай і ўнутранай палітыкай краіны, трымаюць у руках усю яе гаспадарку.

Захват Манчжурыі складае частку агульных заваёўніцкіх планаў японскіх імперыялістаў, якія шмат гадоў рыхтуюцца да выканання гэтых планаў. Японскія імперыялісты стараюцца цяпер пераканаць японскі народ, а таксама ўвесь свет, што Манчжурыя і Манголія неабходны Японіі як паветра, што ад далучэння гэтых раёнаў да Японіі залежыць

і ўсё існаванне гэтай краіны, жыццё і дабрабыт яе насельніцтва.

Японія надта перанаселена, гавораць яны, насельніцтва яе павялічваецца, зямлі мала, таму японскія рабочы і селянін галадаюць. Японія павінна заваяваць новыя землі, інакш насельніцтва яе вымрэ з голада.

Справа не ў перанаселенасці. Японскі селянін і рабочы галадаюць не таму, што ў Японіі шмат народа і мала рысу, каб пракарміць гэты народ. Японскі рабочы і селянін не могуць купляць рыс—галоўны прадмет харчавання, таму што яму няма чым плаціць за яго—капіталісты надта мала плоцяць рабочаму за яго працу, а галадаючае сялянства вымушана плаціць памешчыкам высокую арэндную плату, яго данімаюць ліхвяры і падаткі казне, якой патрэбны грошы на вайну ў Кітаі. У Японіі мільёны беспрацоўных рабочых і беззямельных сялян.

Сапраўдная прычына напада на Кітай заключаецца ў тым, што Манчжурыя з'яўляецца ў многіх адносінах вельмі ласым кавалкам для японскіх імперыялістаў.

Манчжурыя мае для японскіх капіталістаў вялізарнае эканамічнае (гаспадарчае) значэнне, таму-то яны і захвацілі яе.

Японская буржуазія ўладае моцна развітай прамысловасцю, асабліва ваеннай, металургічнай, хімічнай і тэкстыльнай. Але ў самой Японіі мала сваёй сыравіны, мала вугаля,

мала жалезнай руды, няма нафты. Японскія заводы працуюць на прывознай сыравіне. Японскія капіталісты знаходзяцца ў гэтых адносінах у поўнай залежнасці ад іншых краін. Гэта ставіць японскую ваеншчыну ў вельмі труднае становішча ў выпадку вайны, бо праціўнік можа адрэзаць Японію ад краін і калоній, з якіх яна ўвозіць сыравіну і харч. Тым самым вайна для японскага імперыялізма можа быць прайграна.

Манчжурыю нездарма называюць «скарбніцай Далёкага Ўсхода». Прыродныя багацці яе невычарпальныя. Манчжурыя мае сыравіну, якой не хапае японскім імперыялістам. Запасы жалезнай руды ў Манчжурыі ў 16 разоў большыя, чым у Японіі. Яны складаюць 743 млн. *т.* Каменнага вугалю ў Манчжурыі ў 6—7 разоў больш, чым у Японіі.

Далей, у Манчжурыі ёсьць нафта. Японскія імперыялісты маюць велізарны флот як гандлёвы, так і ваенны. Гэты флот адчувае патрэбу ў вадкім апале. У сучасны момант Японія вымушана ўвозіць каля 75 проц. патрэбнай ёй нафты, галоўным чынам, з ПАЗШ. Гэтая залежнасць ад галоўнага свайго ворага на Ціхім акіяне ставіць японскіх памешчыкаў і капіталістаў у вельмі цяжкае становішча ў выпадку вайны з ПАЗШ, а да гэтай вайны Японія ўвесь час рыхтуецца.

Далей, у Манчжурыі ёсць мноства розных найкаштоўнейшых каляровых металаў, а так-

сама золата, якога зусім няма ў Японіі. У Паўночнай Манчжурыі золата знойдзена ў 700 месцах, у Паўднёвай Манчжурыі— 15 месцанароджаньняў золата.

Нарэшце, Манчжурыя з яе ўрадлівай глебай дае магчымасць японскім захватчыкам атрымаць танную сельскагаспадарчую сыравіну і збожжа. Японія ўвозіць бабы, ячмень, пшаніцу, шэрсць, лес. Усяго гэтага ёсць больш чым дастаткова ў Манчжурыі.

Такім чынам, Манчжурыя для японскага імперыялізма ў эканамічных адносінах прадстаўляе і абшырны рынак для збыта гатовай прамысловай прадукцыі і велізарны запас рознага рода сыравіны. У выпадку вайны з Амерыкай, Манчжурыя павінна снабжаць Японію гэтай сыравінай.

Манчжурыя адкрывае шырокія магчымасці для японскіх імперыялістаў. Багатыя запасы сыравіны і танная рабочая сіла дадуць ім магчымасць выціскаць з манчжурскага рабочага і селяніна такія-ж неймаверныя барышы, якія яны выціскаюць з працоўных самой Японіі, Карэі і іншых калоній.

Гэтым, аднак, далёка не вычэрпваецца значэнне, якое мае Манчжурыя для японскага капітала.

Маленькая Японія, якая выбілася на працягу паўвека ў разрад «вялікіх дзяржаў», марыць аб тым, каб ператварыцца ў «Вялікую Японію», уладычыцу Азіі і Ціхага акіяна.

Японская ваеншчына не скрывае і без сорама гаворыць аб тым, што ў склад будучай «Вялікай Японіі» павінны ўвайсці не толькі Палінезія, Зонскія і Філіпінскія астравы, Аўстралія, Манчжурыя, Манголія і Карэя, але і ўвесь Кітай, і ўвесь Совецкі Далёкі Ўсход з Сахалінам, Камчаткай, Якуцкай вобласцю... Японскія палітычныя дзеячы і генералы стварылі нават асобую тэорыю аб тым, што ўвесь свет павінен быць падзелен паміж трыма вялікімі дзяржавамі: ПАЗШ, якія будуць уладаць безраздзельна Паўночнай і Паўднёвай Амерыкай, Англіяй, якая будзе панаваць у Еўропе і Афрыцы, і Японіяй, якой павінны належаць уся Аўстралія і Азія.

Якімі-б дзікімі ні казаліся гэтыя планы, мы бачым, што японскі імперыялізм увесь час упарта ідзе па шляху іх ажыццяўлення. Японскія імперыялісты хочуць выкалачваць шматмільённыя прыбыткі не толькі з рабочых і сялян Японіі, але і з працоўных усё новых і новых абласцей. Яны паступова заваёўваюць Кітай.

Былы галоўны міністр Японіі—барон Танака — у сакрэтным дакладзе імператару Японіі яшчэ ў 1927 г. прадставіў падрабязны план захвата і асваення Манчжурыі. Неабходнасць захвата ён аб'ясняў так: «для таго, каб заваяваць Кітай, мы павінны заваяваць Манчжурыю і Манголію».

Такім чынам, Манчжурыя для японцаў—ключ да Кітая. Гэты ключ захвачан і скарыстан, дзверы Кітая адкрыты. Цяпер Манчжурыя—гэта апорны пункт для далейшых заваёўніцкіх планаў японскага капітала, плацдарм для падрыхтоўкі напада на СССР.

Японскія імперыялісты ўзмоцнена замацоўваюцца ў Манчжурыі. Яны будуюць там чыгункі, маючыя ваеннае значэнне. Ваеннае міністэрства распрацавала план ваенных пасяленняў у Манчжурыі і Манголіі, згодна якому ў Манчжурыю будуць пераселены 10 тыс. узброеных запасных салдат. Перасяленне запасных ужо пачалося.

Ні для каго не сакрэт, што вайна супроць СССР уваходзіць у бліжэйшыя планы японскай ваеншчыны і найбольш заўзятых японскіх фашысцкіх колаў. Яны ўвесь час стараюцца выклікаць сутычкі з СССР. Калі-б не мірная палітыка Совецкага саюза, іх незлічоныя выпады і правакацыі даўно-б ужо выклікалі ўзброеную сутычку.

Японскія імперыялісты дзейна рыхтуюцца да вайны супроць ПАЗШ за панаванне на Ціхім акіяне. ПАЗШ не хочуць уступіць японцам Кітая, таму што Кітай—багаты рынак для амерыканскіх тавараў і капіталаў. Японіі прыходзіцца вельмі лічыцца з гэтым. У вайне з ПАЗШ для Японіі прадстаўляе вялікую небяспеку магчымасць быць адрэзанай на сваіх астравах ад астатняга света. ПАЗШ

узмацняюць флот і будуюць марскія базы на Ціхім акіяне з мэтай адарваць у часе вайны Японію ад краін, снабжаючых яе прадуктамі і ваеннымі матэрыяламі. Адсюль першаступеннае значэнне Манчжурыі, як крыніцы сыравіны, харча і апала для Японіі ў часе вайны.

Захват Манчжурыі надзвычай абвастрыў адносіны Японіі з іншымі імперыялістычнымі краінамі (у першую чаргу, з ПАЗШ), якія таксама ў роўнай ступені зацікаўлены ў грабяжы Кітая, і наблізіў небяспеку вайны на Ціхім акіяне.

## Як ідуць перагаворы аб продажы КУЧ

Прапанова совецкага ўрада прадаць КУЧ Манчжоу-Го з'яўляецца доказам няўхільнай мірнай палітыкі, якую вядзе Совецкі саюз ва ўмовах вельмі рэзкага абвастрэння сітуацыі на Далёкім Усходзе. Гэтая прапанова з'яўляецца лагічным вынікам той пазіцыі неўмяшання і строгага нейтралітэта, якую заняў совецкі ўрад з самага пачатку канфлікта на Далёкім Усходзе і якую ён адстойвае і зараз.

Совецкі ўрад разглядаў КУЧ, як чыста камерцыйнае прадпрыемства, якое не мае для СССР таго палітычнага значэння, якое чыгунка гэтая мела для імперыялістычных мэт царскай Расіі. Частыя сутычкі, якія ўзні-

калі ў апошні час на чыгунцы, ставілі пагрозу непатрэбнага абвастрэння адносін паміж СССР, Манчжурыяй і Японіяй, маючай, як вядома, з Манчжурыяй асаблівую цесную сувязь.

Манчжурыя стала аб'ектам барацьбы паміж японскім імперыялізмам, кітайскай буржуазіяй і стаячымі за яе спіной імперыялістычнымі коламі пэўных дзяржаў. Савецкі саюз не ўдзельнічае ў барацьбе за падзел чужых тэрыторый. Ён абараняў толькі тыя эканамічныя інтарэсы, якія ён мае на КУЧ, якая з'яўляецца маёмасцю СССР і якой афяраваць СССР не мае ніякіх падстаў.

Савецкая прапанова аб продажы КУЧ мае мэтай адхіліць магчымасць усякіх сутычак, узнікаючых на той падставе, што чыгунка з'яўляецца савецкай уласнасцю, знаходзіцца на тэрыторыі, на якой створана Манчжурская дзяржава, якая знаходзіцца пад кантролем японскіх войскаў. І калі Японія і Манчжурыя сапраўды хочуць міра, то продаж намі чыгункі з'яўляецца для іх адзіным шляхам унікнення пастаянных сутычак, якія служаць пагрозай на Далёкім Усходзе.

У пачатку ліпеня адкрылася ў Токіо канферэнцыя з удзелам дэлегацыі СССР, Манчжурыі і прадстаўнікоў Японіі. Савецкая і манчжурская дэлегацыі абмяняліся мемаран-

думамі (прапановамі) аб прынцыпах продажа КУЧ Манчжурыі.

Совецкая дэлегацыя ўнесла зусім канкрэтныя прапановы аб умовах продажа чыгункі і аб цане, за якую наш урад прадае дарогу.

Фактычна кошт дарогі—будаўніцтва яе, усіх дадатковых пабудоў пры ёй, наша дэлегацыя вызначыла ў суме 411691976 залатых рублёў. Улічваючы зношанасць тэхнічнага абсталявання чыгункі і некаторае змяненне эканамічнага стана яе ў сувязі са створанымі абставінамі, совецкая дэлегацыя згадзілася знізіць суму да 250 млн. залатых рублёў.

Манчжурская-ж дэлегацыя высунула зусім для нас непрыймальную і беспадстаўна нізкую суму ў 500 млн. іен (каля 60 млн. залатых рублёў). Прапанаванне такой вельмі нізкай сумы можа тлумачыцца толькі адсутнасцю жадання весці сапраўды сур'ёзныя перагаворы аб куплі чыгункі.

Асноўны довад манчжурскай дэлегацыі аб «невысокай» вартасці чыгункі заключаецца ў тым, што, быццам, эканамічнае значэнне дарогі зусім змянілася, што яна «не мае значэння для Манчжурыі і не асабліва ёй патрэбна» і т. д. Імкненне манчжурскай дэлегацыі зрабіць ураженне, што чыгунка ёй непатрэбна і што СССР хоча «збыць» яе— з'яўляецца спробай з нягоднымі сродкамі. Калі чыгунка ёй непатрэбна і «страціла сваю

вартасць», то чым тлумачыцца настойліва яе жаданне аўладаць дарогай?

Манчжурская дэлегацыя прабавала даказаць, што СССР зусім не з'яўляецца ўласнікам чыгункі, што «ўласнікам яе з'яўляецца Манчжурыя, а СССР мае толькі права кіраўніцтва ёю, а за гэта права досыць і 60 млн. рублёў».

Тры дзяржавы згадзіліся склікаць канферэнцыю ў Токіо, паслалі туды дэлегатаў, выходзячы з таго відавочнага факта, што адна з іх—СССР—згодна прадаць належачае яму прадпрыемства, а другая—Манчжурыя—гатова купіць яе.

Даволі шырока вядома, што КУЧ пабудавана Расіяй на тэрыторыі, узятай у арэнду ў Кітаі. Згодна Пекінскай і Мукдэнскай згодам 1924 г., СССР, з'яўляючыся ворагам захватніцкай палітыкі і паважаючы правы Кітая, прадаставіў яму права сумеснага ўдзела ў кіраўніцтве і атрымання часткі прыбыткаў ад чыгункі. Але свайго права ўласнасці на чыгунку, пабудаваную на сродкі працоўных былой царскай Расіі, наша краіна ні з кім не падзяліла.

На VI паседжанні канферэнцыі ў жніўні гг. совецкая дэлегацыя заявіла, што ў мэтах поспеха перагавораў яна гатова пайсці на зніжэнне спачатку вызначанай цаны на 50 млн. залатых рублёў. Гэтую заяву нашай дэлегацыі нельга інакш расцэньваць, як до-

каз сапраўднай гатоўнасці давесці перагаворы аб продажы чыгункі да паспяховага канца.

Аднак-жа, і да сёнешняга дня, як вядома, перагаворы ідуць вельмі марудна. Больш таго, у нашым друку неаднакроць указвалася на даволі моцныя тэндэнцыі сарваць гэтыя перагаворы і не даць іх давесці да паспяховага завяршэння. Адкуль бяруцца гэтыя імкненні сарваць перагаворы аб продажы КУЧ?

Гэтыя тэндэнцыі зыходзяць ад пэўных колаў японскай ваеншчыны, якія яшчэ не адкінулі думкі наконт захвата чыгункі сілай, ад тых колаў японскага імперыялізма, якія рыхтуюць напад на Совецкі саюз, імкнуцца захваціць усходнія тэрыторыі нашай краіны. У японскім друку за апошні час выказваюцца думкі наконт «неабходнасці неадкладнага разрыва перагавораў аб КУЧ». З тых-жа крыніц мы ведаем, што імперыялістычныя колы Японіі распаўсюджваюць думку аб тым, што СССР павінен уступіць Владывасток, які, быццам, «з адыходам КУЧ траціць для СССР сваё значэнне», што СССР павінен здаць «манаполію рыбнай лоўлі японскім фірмам ля берагоў Совецкай Камчаткі» і т. д. Паны імперыялісты забываюць пра тое, што мы гатовы прадаць уласную чыгунку, якая знаходзіцца не на нашай тэрыторыі, што «мы чужой зямлі не хочам, але

і сваёй зямлі, ні аднаго вяршка сваёй зямлі не аддамо нікому» **(Сталін).**

Совецкі ўрад зусім не зацікаўлен у тым, каб КУЧ працягвала быць крыніцай усялякіх канфліктаў на Далёкім Усходзе. Совецкі ўрад імкнецца стварыць нармальныя совецка-японскія адносіны і з гэтага пункта гледжання падыходзіць да вырашэння пытання аб КУЧ. І калі цвёрды намер нашага ўрада не сустрэне належнага падтрымання ў кіруючых колах Японіі, якая замест гэтага будзе імкнуцца і далей сарваць перагаворы, стане зусім ясна шырокім працоўным масам, што перагаворы сарваны не таму, што не «зышліся ў цане», а таму, што ў Токіо бярэ верх палітыка імперыялістычных захватаў і ваенных авантур.

Ведаючы пра гэта, працоўныя Совецкага саюза ўважліва сочаць за ходам перагавораў і знаходзяцца напагатове.

## Якія поспехі мірнай палітыкі СССР

Совецкі саюз заўсёды настойліва праводзіў і праводзіць палітыку міра. Імкненнем да міра прасякнуты ўсе без выключэння пачынанні совецкага ўрада: падпісанне канвенцый аб вызначэнні нападаючага боку з радам буржуазных краін, асабліва з нашымі суседзямі; заключэнне пактаў аб ненападзе

з буржуазнымі краінамі,—усё гэта вынік нашай паслядоўнай мірнай палітыкі.

Такую палітыку міра, ні на крок не адступаючы ад сваіх прынцыпаў, можа весці толькі краіна будуючагася социялізма, якая не ведае крызісаў і беспрацоўя і якой непатрэбен захват чужых тэрыторый і чужых багаццяў для свайго развіцця.

Совецкі саюз вырас у буйнейшую міжнародную палітычную і эканамічную сілу. Капіталістычны свет вымушан прызнаць, што толькі СССР расце і мацнее, што толькі ў нас самы ўстойлівы палітычны рэжым. Гэтыя факты на фоне нашых перамог у будаўніцтве соцыялізма ўнутры краіны, поспехаў нашай палітыкі, дасягнутых намі за апошнія гады, выклікалі імкненне цэлага рада краін палепшыць адносіны з СССР.

Канвенцыя, падпісаная ў Лондане амаль усімі суседзямі СССР, якая ўстанаўлівае разуменне нападаючага боку, і падпісанне такой-жа канвенцыі паміж СССР і краінамі Малой Антанты, у тым ліку Румыніяй і Югаславіяй, краінамі, якія не знаходзяцца з СССР у дыпламатычных зносінах,—з'яўляецца буйнейшай міжнароднай падзеяй, буйнейшай перамогай мірнай палітыкі совецкага ўрада.

Да перамог нашай мірнай палітыкі трэба аднесці і такія буйнейшыя па свайму значэнню факты, як прызнанне СССР Іспаніяй,

падпісанне з Італіяй дагавора аб сяброўстве, ненападзенні і нейтралітэце, усё больш умацоўваючыеся адносіны СССР і Францыі, што знаходзіць сваё адлюстраванне ў прабыванні выдатнага дзеяча Францыі — Эдуарда Эрыо—у СССР.

Упорная барацьба, якую вядзе Совецкі саюз за справу міра, зрабіла яго маяком для ўсіх тых, хто не хоча вайны. Непахісная, рашучая і настойлівая палітыка міра, якую праводзіць совецкі ўрад, даказала шырокім працоўным масам, што СССР—вораг усякага напада, што ён стаіць на глебе самавызначэння нацый, не шукаючы тэрытарыяльных заваёў.

Міжнародны імперыялізм імкнецца тлумачыць нашу мірную палітыку слабасцю або боязню вайны. Але гэтаму не павераць ні шырокія масы працоўных, ні тыя, хто згодны разумна ацэньваць факты. Бо вельмі добра вядома, што поспехі нашай мірнай палітыкі грунтуюцца на велізарных перамогах соцыялістычнага будаўніцтва і ўсё больш мацнеючай абароназдольнасці СССР, і што гэтая мірная палітыка ўзнімае сілу, моц і аўтарытэт Краіны советаў у мільённых масах праціўнікаў імперыялістычнай вайны. Мы супроць вайны, якая прыносіць незлічоныя пакуты і афяры працоўнаму народу, якая вядзецца ў інтарэсах кучкі імперыялістычных драпежнікаў.

Але мы добра ведаем, што ніякія канвенцыі, пакты і дагаворы не з'яўляюцца поўнай гарантыяй міра. Ворагі міра будуць рабіць і ўжо робяць усё, каб распаліць факел вайны, у першую чаргу накіраванай супроць соцыялістычнай краіны. У гэтым напрамку дзейнічаюць японскія імперыялісты, якія імкнуцца ўсімі сіламі і сродкамі сарваць нашу мірную палітыку на Далёкім Усходзе.

Пагроза ваеннага напада на СССР усё часцей нясецца з фашысцкай Германіі, дзе некаторыя кіраўнікі нацыянал-соцыялістаў носяцца з планамі захвата тэрыторыі СССР, шукаючы сабе саюзнікаў у іншых краінах. І мы павінны добра ўявіць сабе, што гэтых прыхільнікаў ваеннага напада, гэтых заўзятых ворагаў СССР і яго мірнай палітыкі нямала ёсць у краінах капіталізма.

Іменна зараз, калі імперыялісты прабуюць запаліць сусветны пажар, працоўныя ўсіх краін, усё лепшае, што ёсць у чалавецтве, накіроўваюць свае думкі і імкненні да СССР—адзінай краіны, якая ў бурлівым моры імперыялістычных супярэчнасцяй высіцца, як непрыступны аплот міра. Працоўныя ўсіх краін ведаюць, што няма краіны, якая так паслядоўна змагаецца за іх інтарэсы. І гэта робіць мірную палітыку СССР сцягам барацьбы супроць злачынных ваенных замыслаў імперыялізма.

